# Дняпроўская СТРОМА





**№ 6** *жнівень 2012 г.*

Выдаецца з мая 2012 г.

**ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКІ І ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ**
**МАГІЛЁЎСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ «САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»**


## У чым сакрэт даўгалецця?

*Калі сустракаешся з цікавым чалавекам, за плячыма ў якога вялікі жыццёвы шлях, то заўсёды хвалюешся. Таму што заўсёды пазнаеш шмат новага - пра жыццё, пра час, пра лёсы краіны. Такая вось сустрэча і адбылася ў вёсцы Пятровічы Магілёўскага раёна з Зінаідай Лявонаўнай Галубцовай, якая ўсё жыццё працавала на ніве народнай адукацыі і была першай музай нашага знакамітага земляка - вядомага магілёўскага літаратара Якава Кірылавіча Усікава.*

*Давайце пагартаем старонкі гэтай памятнай сустрэчы ...*

( Заканчэнне на с.2 )



Зінаіда Лявонаўна Галубцова ўспамінае...

## Сяргей ЧЫГРЫН



* * *

**Думаў вершы**
**Алесь Пісьмянкоў,**
**Ды якія надумаў**
**вершы!**
**Калі еду ў яго Магілёў –**
**"Белы Камень" успомніцца першы.**
**Самы белы згадаецца снег,**
**Сум агорне па беламу полю...**
**І чаму гэта ў той старане**
**У паэтаў самотная доля?**

*( г.Слонім )*

## У назвах вуліц застануцца...

**Здаецца зусім нядаўна характэрную нетаропка-велічную постаць Якуба Усікава можна было сустрэць і ў шумным Магілёве, і ў родным Кадзіне. І быццам толькі ўчора рухавы Васіль Карпечанка спяшаўся на чарговую літаратурную сустрэчу да школьнікаў ці ў бібліятэку. А вось ужо сёння на карце Магілёва з'явіліся вуліцы ды завулкі, названыя імёнамі гэтых літаратараў. Магілёўскі гарадскі Савет дэпутатаў зацвердзіў і шэраг іншых назваў новых вуліц, дзе навечна застануцца імёны вядомых магілёўскіх пісьменнікаў Янкі Журбы, Платона Галавача, Васіля Шашалевіча, Васіля Каваля, Анатоля Сербантовіча, Міколы Лук'янава, Аркадзя Кандрусевіча, Пятра Шасцерыкова, Васіля Матэвушава і Эдуарда Валасевіча. Таксама адну з найбуйнейшых вуліц назвалі ў гонар Мікалая Судзілоўскага - ураджэнца Магілёва, філосафа, вучонага і рэвалюцыянера, Прэзідэнта Сената Гавайскіх астравоў.**

**Новыя вуліцы паўстануць у раёне вёсцы Гарадшчына, паміж Казіміраўкай, Цішоўкамі і Ямніцкім пасёлкам.**

**Называць магілёўскія вуліцы імёнамі вядомых землякоў -- вельмі добрая практыка. Гэта ўсё-ткі цікавей, чым 12 завулкаў Лізы Чайкінай, 10 Падгорных, 7 Вясенніх ці *"Клубный овраг", "Рыночный тупик"* ды нейкі *"Республиканский спуск"*.**

**Мікола ЯЦКОЎ.**






№ 6 жнівень 2012 г.

# У чым сакрэт даўгалецця?

( Заканчэнне. Пачатак на с.1 )

... У вёсцы Антонаўка падчас вайны адкрылі пачатковую школу, дзе працавала чатыры чалавекі на чатыры класы, у тым ліку і Зінаіда Лявонаўна. Якуб Кірылавіч Усікаў ў гэты час працаваў у шасці кіламетрах ад яе, у Амхаўской школе. Яго калега жыў недалёка ад Зінаіды Лявонаўны і неаднаразова запрашаў да сябе ў госці Якуба. Менавіта там і адбылася першая сустрэча, якая стала лёсавызначальный.



З.Л.Галубцова



Я.К.Усікаў

*«Свой шлюб з Якавам мы рэгістравалі ў Чавусах ў лютым ці сакавіку 1943 года, куды на возе прывёз нас яго калега. 10 жніўня 1944 года ў нас нарадзілася дачка Марыя, Манечка.*



З дачкой Марыей

*А ў самым пачатку вайны Якуб Кірылавіч з сябрамі Сашам Кавалевым і Пятром Дзенісенкам сышлі ў партызаны. Сярод партызан быў здраднік, і аднойчы атрад акружылі немцы. У той дзень загінулі ўсе, акрамя Усікава і Дзенісенкі... Якаў ноччу дабраўся да суседняй вёскі з аўчынкай на нагах - абарваў рукавы з аўчыннай футры і змайстраваў. Мая стрыечная сястра, у якой муж быў на фронце, дала яму чаравікі. Усю ноч мы з Якавам і Дзенісенкам дабіраліся да Кадзіна. Два тыдні хаваліся ў бацькоў Якава, а затым сышлі ў Вялікую Бароўку.*

*Пасля вызвалення вярнуліся ў Кадзіна. Якаў адправіўся адразу ў ваенкамат, каб аформіць дакументы на фронт, я ж пайшла ў родныя Пятровічы. І пачала працаваць у школе суседняй вёскі Галяні, настаўніцай пачатковых класаў. На тры першых класа (у кожным па 23-25 чалавек) быў толькі адзін буквар. Начамі прыходзілася шыць для дзяцей працоўныя сшыткі. Калектыў наш быў вельмі дружны ...*

*Лета 1945 года. У двары забрахаў сабака. Падумалася: «Хто гэта так позна?» А гэта Якуб Кірылавіч вярнуўся з вайны... Па дарозе дадому ён заехаў у Мінск, каб аформіць дакументы ў інстытут... Мы разам пражылі сем гадоў, але лёс распарадзіўся па-свойму - і нам прыйшлося расстацца. Ён працаваў выкладчыкам Магілеўскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута, а я працягвала працаваць у Галянёўскай сярэдняй школе...»*

А неўзабаве пасля гэтага адкрылася новая старонка жыцця Зінаіды Лявонаўны: сорак сем гадоў -- з 1950 па 1987-ы -- пражыла яна, *«як адно імгненне»*, з Аляксеем Авяр'янавічам Ермаковым. Ён быў таксама настаўнікам. Акрамя старэйшай дачкі Марыі, яны выхавалі яшчэ двух выдатных дачок - Тамару і Таццяну.



Былое і думы...

...Сёння, зноў і зноў перагортваючы стары сямейны фотаальбом, дзівішся жыццярадаснасці гэтай выдатнай жанчыны, якая валодае невычэрпнай энэргіяй, аптымізмам і дзіўнай мудрасцю ... Ці не з гэтага і складаецца сакрэт яе даўгалецця?

**Ларыса ПЕТРУСЁВА,**
**настаўніца Кадзінскай СШ.**

Фотаздымкі аўтара
і з асабістага архіва З.Л.Галубцовай.

## Гонар і слава зямлі Магілёўскай

### Славутыя ураджэнцы Магілёўскага раёна

**УСІКАЎ Якуб (Якаў) Кірылавіч**
(псеўданімы Я.Кірылаў, Я.Саблін, Я.Усік, Якуб Усік)
20.09.1919, в. Кадзіна - 1995, г. Магілёў.
Удзельнік Вялікай Айчынай вайны. Узнагароджаны ордэнамі «Айчынная вайна» ІІ ступені, «Чырвоная Зорка», медалямі, Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.
Узначальваў кафедру беларускай літаратуры Магілёўскага педінстытута.
Кандыдат філалагічных навук.
Член Саюза пісьменнікаў СССР з 1951 г. Аўтар шасці кніг.
Іменем Я.Усікава названа вуліца ў г. Магілёве.

**Міхась БУЛАВАЦКІ**

# У Крыме спяваюць пра Беларусь

Шмат каго з нашых землякоў лёс прымусіў пакінуць родную старонку і атабарыцца на новым месцы. Частка з іх прынялі парадкі, звычкі мясцовых жыхароў, прыстасаваліся да чужой мовы, новых варункаў жыцця і паступова забылі сваё, як зараз непатрэбнае. Але большасць не забываюць радзімы, гуртуюцца ў суполкі, якія збіраюцца дзеля таго, каб паразмаўляць на роднай мове, паўспамінаць, каб паспяваць родныя песні ці нават стварыць новыя песні аб радзіме.

Адна з такіх беларускіх суполак існуе ў Ялце. Там наяўнасць такой суполкі цалкам арганічная, бо ў гэтым горадзе скончыў свой век адзін з найвыбітнейшых паэтаў нашай зямлі Максім Багдановіч. Нашы землякі даглядаюць магілу Максіма, збіраюцца, каб пачытаць яго творы і – натуральна ж – ствараюць свае творы аб радзіме, хаця й пераважна на расейскай мове, бо сваю не забылі, але яна не ў настолькі актыўным карыстанні, каб валодаць ёю філігранна. Лепшыя з гэтых твораў уганароўваюцца прэміяй імя Максіма Багдановіча, -- ёсць такая прэмія для крымскіх літаратараў.

Увазе чытача прапануецца адна з песень, створаная на крымскай зямлі.

## Беларусь

Словы Міхася Казакова
ў перастварэнні на беларускую мову Міхася Булавацкага

Музыка Рыгора Квача




1. Песняй над ціхай ракою
Зноў ты мяне сустракай.
Сэрца табой супакою,
Родны бярозавы край
   Ты, Беларусь, светлы мой сум,
   Радасць мая невыказная!..
   Мара-зямля… Спеў салаўя
   Вечная песня мая.

2. У песнях, з маленства любімых,
Мацеры голас гучыць.
І над прасторай радзімы
Памяць, як птушка, імчыць.
   Ты, Беларусь, светлы мой сум,
   Любасць мая неабсяжная!..
   Дзіва-зямля… Ўсплёск ручая…
   Вечная песня мая.

3. Шчодра палічыць зязюля
Леты твае і мае.
Край, дзе пяяла матуля,
Веру і сілу дае.
   Ты, Беларусь, светлы мой сум,
   Шчасце маё недасяжнае!..
   Мроя-зямля… Ёй я пяю
   Вечную песню маю.



Аўтар слоў, паэт
Міхась КАЗАКОЎ



Перакладчык, паэт
Міхась БУЛАВАЦКІ



Аўтар музыкі, кампазітар
Рыгор КВАЧ



Магілёўскія прыхільнікі творчасці Максіма Багдановіча ніколі не забываюць сцяжыну, што вядзе да месца яго апошняга спачыну. Паэт Міхась Булавацкі прыязна разгарнуў свой памятны фотаальбом…

# У Ялту, да Максіма...

# У Ялту, да Максіма...




Да ліпеня 2003 года адшукаць магілу Максіма Багдановіча ў Ялце, дзе ён напісаў свае апошнія вершы, было няпроста. Паэт, прызнаны геніем толькі пасля смерці, быў пахаваны на сціплых Аўцкіх могілках на ўскраіне горада, не удастоіўшыся гонару пакоіцца на знакамітых Палікураўскіх. Ды і там даводзілася арыентавацца на чужыя пахаванні - прысадзісты абеліск шэрага вапняка з чырвонай зоркай і чатырма радкамі з верша "Між пяскоў Егіпецкай зямлі", што быў усталяваны на магіле беларускага паэта ў 1924 годзе, нічым не звяртаў на сябе ўвагу...



Міхась Булавацкі ўскладвае кветкі на магіле Максіма Багдановіча.
Злева - кіраўнік ялцінскай суполкі беларусаў Валер Бартохаў.



Магілеўцы ля помніка Максіму Багдановічу.



Цяпер памяць нашага Максіма ўвекавечана годным чынам - замест непрыкметнага надмагілля ўрэшце ўсталяваны помнік скульптараў Льва і Сяргея Гумілеўскіх, дзіўным чынам сугучны юнай паэзіі Багдановіча...



Фотаздымкі з асабістага архіва М.Булавацкага



Фотаздымак зроблены 23 верасня 2003 года -- праз два месяцы пасля адкрыцця новага помніка на магіле Максіма Багдановіча. Магілёўцы зноў завіталі да свайго Паэта...

Тамара АЎСЯННІКАВА

# Нявестка



Апавяданне

Двое старэйшых сыноў і дачка Хведара і Ганны былі пры іх, у вёсцы. А меншы, Іван, у горад падаўся вучыцца на інжынера. Хлопец прыгожы, разумны ўдаўся. Бацькі ганарыліся сынам. Шкада, што рэдка бачацца, далёка заехаў. Пасля інстытута паслалі працаваць аж у Хабараўск. Ажаніўся Іван нядаўна. Узяў гарадскую. Бацькі перажывалі. Ведама, якія тыя гарадскія: вусны намалююць, пазногці адпусцяць, рабіць нічога не ўмеюць і не хочуць, толькі перад люстэркам круцяцца ды ўборы часцей дыхання мяняюць .

– Ой нагаруецца наш Іванечка з той гарадскою, – лямантавала Ганна. – Узяў бы суседскую Аленку. І прыгожая, і рабацяшчая, і пявуння, і плясуння, і ўсяму час вядае. Без патрэбы не пабяжыць па вёсцы мянтачыць языком.

– Ганначка, ну чаго ты галосіш, можа, і гарадская будзе, як Аленка, – супакойваў жонку Хведар. – У горадзе таксама прыстойныя дзяўчаты ёсць.

– Ой, Хведар, чуе маё сэрца, што акруціла нашага Іванечку крашаная.

Нарэшце сыночак прыехаў. Як убачылі Ганна з Хведарам нявестку, дык і мову ў іх адняло. Анямелі і аслупянелі. Побач з іх Іванечкам, высокім, прыгожым, у самай сіле хлопцам, стаяла маленькая, нават да пляча Івану не даставала, непрыгожая дзяўчына. Ні рожы, ні кожы. Вусны, праўда, не накрашаныя.

– Вой-воечкі, – галасіла Ганна, дагледжаючы худобу, – няхай ба лепш з накрашанымі губамі была, гэта ж трэба было за свет паехаць ды такую нягадзяшчанькую выбраць, няўжо ж там лепшых не было! Куды ж яго вочачкі глядзелі! А мой жа ты, сыночак!..

Жаніцьба Івана не укладвалася ў галаве не толькі ў бацькоў, а і ва ўсіх аднавяскоўцаў. На пытанне маці: "Можа, яна цябе, сынку, апаіла чым?" Іван адказаў: "Мама, калі б вы паглядзелі на яе маімі вачамі, то і вам яна была б прыгожай". Ад гэтых слоў у Ганны недзе ля сэрца нешта памяняласяі: "Калі Іванечка так сказаў, значыць, я чагосьці не ўбачыла, не зразумела", – разважала маці. Але праз момант зноў галасіла: "Вой-воечкі, а на што ж там глядзець, глядзець жа няма на што!..".

Між тым Ганна пачала прыглядацца да нявесткі. І вось дзіва! Паліна станавілася для яе з кожным днём усё прыгажэйшай і прыгажэйшай. Ганна заўважыла, які ў яе шчыры і сардэчны пагляд і якая прывабная ўсмешка. Ды і сама Палінка, хоць і маленькая, але такая складненькая, і ў руках яе ўсё гарыць.

Калі бабы пачыналі з Ганнаю гаворку пра яе гарадскую нявестку, яна ім адказвала:

– Не-е-е, бабы! Палінка прыгожая, толькі на яе трэба глядзець вачамі майго Іванечкі.

Таццяна Барысік

### ПАКОРА

Ў нашых краях не прынята даўно вечар з сябрынаю бавіць.
Ў пуню залезці і долі чакаць – гэта па-нашаму мабыць.
Ціха зубамі ў цішы скрыгатаць – вось яна ціхая радасць!
Ўпасці грудзямі на сена ў куче,грызці пазногці і плакаць.
Змоўкні! Суседзі пачуюць твой плач і на ўсю вёску зняслаўяць.
Ў матчынай хаце паветра няма,можна за ночаньку ўчадзець!
– Лепш разбярыцеся самі ў сабе,думкі пакоры дабаўяць,–
Дзядзька псіхолаг разумны такі ўсім недапечаным раіць...
Сінь васількоў ды пшанічкі асцё, лялькі ільняныя ў зрэб'і.
Я б аддала за Радзіму жыццё, толькі яно ёй ня трэба.

* * *

*Ведь наши песни как наша жизнь –*
*с утра грустим,а к вечеру смеемся.*
(Радкі з папулярнай песні)

То заплачуць,то конікам скачуць,
То загадваюць – шчэ налівай!
То смяюцца,як палец пакажуць –
Пустацветам цвіце родны край.
Грае радыё ажно заходзіцца
Хоць збірайся ды ідзі ў карагод!
Толькі песні што думкі ў злодзея –
Як адна пра суседзкі гарод.
Не спявае сумленне хто мае,
Бо шануе спрадвечны закон.
Для бяседы нагодаў хапае –
Трэці дзень,дзевяць дзён,сорак дзён.
Нашы песні даўно ўжо на пенсіі.
Ва ўспамінах дзіцячай пары
Чарнабыллем заросл калодзеж,
Падмаскоўныя вечары!

### ЦВІЛАЯ ПЕСНЯ

Не дагукацца да белага гаю!
Ночка цвілая, ніяк не прачнуцца.
Стопка ў старым сліўняку патанае.
Шэрыя мышы ў дзежках вядуцца,
Мост земляны ды дубовыя дзверы,
Лоўж ад святла засцілае вакенца.
Кропля вады пахаваная ў цэмры
Ціха паўзе паўз мурзатае шкельца.
Не дагукацца да белага гаю!
Крача каршун па-над восеньскім
быллем,
Бы на Вялікдзень сонейка йграе
Песціць залоціць чорныя крылы.
Скончыўся доўгі дзень нараджэння,
Стала вінoм вінаградная гронка.
Ў склепе, у стопцы, у сутарэннях
Быць немагчыма белым рамонкам.



# НАША ГІСТОРЫЯ



## Іван АНОШКІН
## МАГІЛЁЎШЧЫНА ЛІТАРАТУРНАЯ

*( Праця̆г. Пачатак у № 1- 5 )*

Пад кіраўніцтвам Івана Васільевіча прабівалі сцяжыну на літаратурны Парнас былыя студэнты педінстытута Васіль Матэвушаў (меў тады псеўданім Васіль Нёман), Дзмітрый Палітыка, Уладзімір Агіевіч і іншыя будучыя пісьменнікі.



*Дзмітрый Палітыка*

У 1935 годзе пры ўдзеле членаў літаб'яднання была напісана цікавая кніга «На Цішоўскай пустцы» — аб узвядзенні на ўскраіне Магілёва шаўковай фабрыкі (цяперашнІ завод штучнага валакна), кніга выдадзена Беларускім дзяржаўным выдавецтвам пад рэадкцыяй пісьменнікаў, нашых землякоў Платона Галавача і Васіля Каваля — пасля знішчаных яжоўскімі катамі. Перад самай вайной у абласной газеце «Камунар Магілёўшчыны» (цяпер — «Магілёўская праўда») пачалі друкавацца студэнты педінстытута Мікола Гарулёў, Пятро Шасцерыкоў, Эдуард Валасевіч, у далейшым вядомыя пісьменнікі.

У рэдакцыі «Камунара Магілёўшчыны» ў той час працаваў малады паэт з вёскі Цёплае Чавускага раёна Уладзімір Рагуцкі. У 1940 годзе Дзяржаўнае выдавецтва БССР прыняло да друку ягоны першы вершаваны зборнік. Але грымнула вайна, рукапіс загінуў. У першы ж год вайны загінуў і Уладзімір Рагуцкі, абараняючы ад захопнікаў родную зямлю.

*Уладзімір Рагуцкі*

Пасля Вялікай Айчыннай вайны літаб'яднанне «Прыдняпроўе» пры абласной газеце (тады называлася «За Радзіму») узначаліў яе адказны сакратар Мікола Ткачоў, які знаходзіў час і для працы над рукапісам свайго рамана «Згуртаванасць» аб партызанскім руху на Магілёўшчыне, удзельнікам якога ён быў. І потым, працуючы ўжо ў Мінску, Мікола Гаўрылавіч не парываў сувязь з землякамі, дбаў аб выхаванні тут літаратурнай змены. Сёння цэнтральная раённая бібліятэка ў Краснаполлі носіць яго імя.



*Мікола Ткачоў*

Калі М. Ткачоў быў запрошаны на пасаду адказнага сакратара ў рэдакцыю часопіса «Полымя», літаб'яднанне ўзначаліў Васіль Матэвушаў — самабытны паэт, якога справядліва называлі песняром прыдняпроўскага краю. За пейзажамі ў В. Матэвушава прасвечваецца душа сучасніка — руплівага гаспадара сваёй зямлі.

*(Працяг будзе)*

# ...І поўніцца светлаю радасцю слых

## Вершы Мікалая МЕЛЬНІЧЭНКІ

### ВЯСЁЛКА



Дождж прайшоў, і заплакала лісце
Найчысцейшай, не горкай слязой.
Так і рвешся пад кропелькі выйсці,
Каб пакратаць вясёлку рукой!

Ды спяшаецца вецер адвесці
Прыгажосць, што стварыла прырода сама.
Ёсць на небе дуга, а каня ва ўсім свеце
Пад яго варанога няма.

### ЛЕСАВІК І МУХАМОРЫ

Мне паведаў дзядуля знаёмы калісьці –
Верыў цудам стары і да казак прывык, –
Як у нетрах лясных, па-пад хвояй і лісцем
Адзінокі, бяздомны блукаў лесавік.
Ён пакутваў ад золкай расы і туманаў,
Асцярожна хадзіў, каб не быць у бядзе,
Варушыўся лясун бес-перастанна,
Ды сагрэцца лядашчы не мог анідзе.
Гном людзей пазбягаў і сяброў не заводзіў,
Адзічэлы, зарослы ад пятак да рук,
Ён аднойчы набрыў у чарговым паходзе
На дзіравы гаршчок і з красалам капшук.
Карыстацца не ўмеў прымітыўнай прыладай,
Нават пальцы разбіў і падрапаў далонь –
Неяк бачыў занятак курца самасаду, –
Хоць і з болем, ды высек жаданы агонь.
А развёўшы цяпло, ён з гарачай начынкай
Па ўладаннях сваіх без разбору шугаў...
Спатыкаўся, губляў дзе жывую жарынку,
Там чырвоны з зямлі мухамор прарастаў.
І паганкі
агністай адметкай
раскута
У барах і гаях да марозаў гараць.
Загавораных дзедам лясным да атруты
Іх ніводзін грыбнік не жадае збіраць.

### ПАЛЕССЕ



Палессе маё, непаўторнае!
Тут дзіўна сваволяць вятры,
Сцяжынка да скарбаў
не цалкам пратарана,
Не ў рукі той скарб, а ў сэрца бяры.

І назва твая, нібы песня над краем,
Мясцінаў такіх не сустрэнеш нідзе,
Любоўна аблічча сваё аглядае
З вышынь маладзік у чысцюткай вадзе.

Тут ціша, што лечыць і лепшай не трэба мне,
І поўніцца светлаю радасцю слых,
Упарта нацэлены ў бездані небныя
Стромкія макаўкі дрэў маладых.



*Мікалай МЕЛЬНІЧЭНКА*

## Словы падзякі настаўніку

*Як бы ні складвалася наша жыццё, мы павінны быць удзячнымі тым, хто сустракаўся на нашай зямной сцяжынцы, чый уклад у развіццё нашых здольнасцяў быў яўным, ці, можа, і не навідавоку. Сёння словы падзякі я хачу выказаць майму школьнаму настаўніку па рускай літаратуры Мікалаю Фёдаравічу Мельнічэнка. Зусім нядаўна я сустрэлася з ім падчас маёй вандроўкі па родных мясцінах. Не бачыліся мы сорак гадоў. Я была вельмі рада гэтай сустрэчы. Радасці дадавала навіна: мой настаўнік піша вершы на беларускай мове. Я нават пашкадавала, што ў час маёй вучобы ў Малажынскай школе яшчэ не было паэтычнага гуртка. Яго Мікалай Фёдаравіч стварыў пазней. Але ж узнёсласць душы настаўніка я адчувала на ўроках.*

*Чытачам "Дняпроўскай стромы" я прапаноўваю пазнаёміцца з вершамі Мікалая Фёдаравіча. Ён добра адчувае беларускае слова, у яго ёсць свае паэтычныя знаходкі, як, напрыклад, у вершы "Вясёлка":*

Ёсць на небе дуга, а каня ва ўсім свеце
Пад яго варанога няма...

*Вельмі цікавым, на мой погляд, атрымаўся верш "Лесавік і мухамор". Карані зместу верша тояцца ў глыбокай даўніне, у дахрысціянскіх язычніцкіх уяўленнях беларусаў. Носьбітамі старажытных ведаў заўсёды былі чараўнікі, шаптухі, старыя людзі, а героямі - міфічныя персанажы. У творы ўсё падпарадкавана аўтарскай задумцы: кампазіцыя, лексіка, сінтаксіс, фанетыка і рытмічная структура верша. Гэта сапраўдная ўдача паэта.*

*Мікалай Фёдаравіч Мельнічэнка не раўнадушны чалавек, у яго трапяткая паэтычная душа. Яго разнапланавыя па тэматыцы вершы заслугоўваюць увагі.*

**Тамара АЎСЯННІКАВА.**

* * *

Нарадзіўся на свет я намнога пасля,
Як ад спуджаных коней -тарпанаў грымела зямля.

Там, дзе будні і святы пад небам ішлі чарадой,
Дзе руплівая маці прыносіла дзецям з хлява сырадой,
Дзе прайшло па зямлі ўжо нямала віхураў-падзей,
Знакамітых змаганнем з чужынцам і ў працы людзей,
Дзе ад сонца прыветна раса заблішчыць на траве,
Дзе парадак для дому і сэрца, спакой галаве,
Дзе снавалі ля хатак з ігліц мурашы,
Бралі лепшыя ноты свае салаўі ад душы.

І знаходзіцца ж нелюдзь, якая краіне маёй прад'яўляе віну
За пачатую ў год сорак першым вайну.

У свядомасць маю урываюцца страшныя сны:
Дзесяць родных і родзічаў блізкіх ахвярамі сталі вайны.

Я па сёння жывы – за маёю спіной
Дваццаць сем аж мільёнаў мяне засланілі сабой.
І яны засталіся для нас цёткамі, дзядзькамі, сёстрамі і братамі ...
Многа часу прайшло, але й зараз у памяці ўсе яны з намі.

Край любімы захопнік хацеў запалоніць,
Недарэмна ў Хатыні набаты журбу па ахвярах трызвоняць.
Вораг біў, і паліў, і знішчаў слаўны род чалавечы,
Ды не мог ён характар наш стойкі зламаць і знявечыць.

Я хачу, каб не ведала наша Планета ні войн, ні тэрораў,
Каб не плакалі дзеці, жанчыны ад болю, ад гора.

Добрым людзям няхай ранак шчасце прыносіць,
Ад шчадроты сваёй ноч вадой, не слязамі, травінкі аросіць.

"ДНЯПРОЎСКАЯ СТРОМА"
Літаратурна-мастацкі і інфармацыйны бюлетэнь
Магілёўскага абласнога аддзялення
ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў".
Распаўсюджваецца на правах
унутранай дакументацыі.

Адказны за выпуск -
Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі,
вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: mikolabryl@gmail.com

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць
за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку *15.08.2012 г.. 21.00.*
Наклад 50 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

«Дняпроўская страма» заўсёды на
www.kamunikat.org